Выходзіць з 20 снежня 1945 года

# Настаўніцкая газета

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 37(5368)
Аўторак, 26 сакавіка 2002 года

Дабрачыннасць

# Школьнікі пабачылі сапраўдны вятрак



На школьным двары – сапраўдны гармідар (размова ідзе пра двор школы №110, што ў сталічным мікрараёне Курасоўшчына). І з гэтага гамузу спачатку найбольш выдаюцца крыклівыя галасы, дурнаватыя кепікі, грубавата-дэманстрацыйныя выпады ў адносінах адзін да аднаго. Што зробіш – пераходны ўзрост з усімі атрыбутамі.

Побач, чую, ідзе разборка: "Ганна Сяргееўна, чаму гэта раптам я не еду? – абураецца адзін з вучняў (побач з ім – яшчэ трое апальных кандыдатур). – ...Дык, гэта, нармальна я сябе паводзіў. Ну, дык сапраўды!" – і вочы такія, як кажуць, шчырыя-шчырыя. Але настаўніца застаецца непахіснай.

Раней трэба было працаваць над іміджам добрага хлопца. А цяпер – глядзі сабе ўслед аўтобусу. Дакладней, двум. На якіх астатнія, – напэўна, тыя, хто больш-менш ніштавата зарэкамендаваў сябе як мінімум у апошні час – накіроўваюцца ў музей. Дый не проста ў музей, а ў Беларускі дзяржаўны музей-запаведнік "Менка", што пад адкрытым небам.

Гэта можна назваць дабрачыннай акцыяй. Перш за ўсё яна праводзіцца для дзяцей з праблемных сем'яў. Такіх дзяцей тут дваццаць. А заадно і для астатніх сарака звычайных-"сярэднестатыстычных" вучняў, якія, "карыстаючыся выпадкам", не прамінулі далучыцца. З той толькі розніцай, што для тых дваццаці сталічны мясакамбінат прадаставіў невялічкі аўтобус – бясплатна, зразумелая справа. А астатнія аплачвалі транспартныя выдаткі са сваёй кішэні. А ўжо экскурсію супрацоўнікі музея правялі бясплатна і для тых, і для другіх.

* * *

"У маляўнічым наваколлі Менска, – чытаю ў брашурцы пра музей, – дзе зліваюць воды ціхаплынная Пціч і гістарычна вядомая Менка, пад адкрытым небам размешчаны унікальны музей-запаведнік. Ва ўтульным рэчышчы, сярод тальвегаў і пагоркаў паўстаюць помнікі народнага дойлідства з розных гістарычна-этнаграфічных рэгіёнаў Беларусі. Тут, побач з гарадзішчам на Менцы, знітаваўшыся ў адзіным асяродку, святыні гісторыі і культуры прашчураў набылі сваё новае жыццё..."

Але ж адна справа пра тое пачытаць і паглядзець здымкі. Іншая – калі выходзіш з аўтобуса, а на цябе праз поле глядзяць сапраўдны вятрак з аднаго боку, і не менш сапраўдная старая драўляная царква – з другога. Дык тое, трэба сказаць, уражвае. Нібыта на сампраўдзе ў мінулым стагоддзі апынуўся. Нават настрой асаблівы – такі зачаравана-таямнічы – з'яўляецца. Прыемна.

"У аснову навукова абгрунтаванай структуры экспазіцыі запаведніка, – расказвае экскурсавод, – пакладзена раяніраванне матэрыяльнай культуры беларусаў, у адпаведнасці з якім тэрыторыя рэспублікі падзяляецца на Паазер'е, Падняпроўе, Цэнтральную Беларусь, Усходняе і Заходняе Палессе, Панямонне. Кожны рэгіён прадстаўлены тут фрагментам тыповага паселішча XIX – пачатку XX стагоддзя з традыцыйнай забудовай (грамадскія і культурныя збудаванні, сядзібы і двары, вытворчыя пабудовы і інш.). Кампазіцыйнай воссю архітэктурна-ландшафтнага ансамбля з'яўляецца Пціч і яе поплаў. Перапады вышынь паміж поплавам і плато ствараюць цудоўныя ўмовы для адлюстравання ў экспазіцыі музея асаблівасцей ландшафту розных рэгіёнаў Беларусі".

Во як. Беларускі дзяржаўны музей-запаведнік усё ж такі, а не абы-што.

* * *

Яшчэ калі мы едзем у аўтобусе, я думаю: няўжо гэтай вось моладзі ёсць справа да нейкіх старых хатак? Але потым я назіраю за тым, як гэтыя падлеткі дружна ходзяць за экскурсаводам і ўважліва слухаюць яго. Дый не механічна цёгаюцца ўслед, як зомбі, а яшчэ і задаюць нейкія пытанні. Тое-сёе цікава ім усё ж такі.

А паглядзелі мы з імі Пакроўскую царкву з вёскі Логнавічы Клецкага раёна, сядзібу з вёскі Заброддзе Стаўбцоўскага раёна, кузню з вёскі Клачкова Маладзечанскага раёна, пуню з вёскі Ваўкаўшчына Міёрскага раёна, адрыну з вёскі Леваковічы Пастаўскага раёна, вяночны двор з вёскі Будзічы Докшыцкага раёна. Ну, і вельмі каларытны вятрак з вёскі Янушоўка Мядзельскага раёна, які асабліва ўразіў школьнікаў.

Вельмі цікава аказацца ў хатцы, дзе ўсё начынне тагачаснае, прымерыць сябе пад тыя стандарты жыцця. Уваходзіш. Падлога ў хаце – глінабітная. Першае, што бачыш – беленькая печка з камінчыкам збоку. Яшчэ ў ёй шмат ніш-пячурак для патэльняў, для насення, тытыню. Ёсць і прасторны падпечак, у які пускалі курэй, калі было дужа холадна. Хараство!

Насупраць – чырвоны кут з абразамі, стол, шырокія лавы, паліца ў бабіным куце з розным цагляным посудам. У кладоўцы – таксама паліцы з посудам, бандарныя вырабы. Карацей кажучы, шмат тут усякіх незвычайных для нас прадметаў інтэр'еру, дзіўных цяпер прылад працы. Атмасфера тут заварожвае. Сеў бы і глядзеў у маленькае ваконца на чатыры шыбкі, марыў бы пра нешта ці думаў "пра жыццё". Але часу на тое, каб глядзець у вокны, няма. Хуценька зіркнулі – і пайшлі далей.

Так вось, ходзячы разам са школьнікамі з хаты ў хату, я заўважаю, што яны, аказваецца, у гэтай справе нешта "цямяць". Пра тое яны чулі, гэта вывучалі, яшчэ нешта – бачылі. Аказваецца, і ў іх школе ёсць музей этнаграфіі і побыту, загадчыца якога – Ганна Сяргееўна Сасноўская, яна ж выкладчыца беларускай мовы і літаратуры – суправаджае вучняў. Да таго ж, школа ў іх – беларускамоўная. Так што, урэшце, я гляджу на іх ўжо як на сімпатычных дзетак (хоць некаторыя крыху выбрыкваюцца і ставяць адзін аднаму рогі перад фотакамерай).

* * *

З усёй кампаніі я выдзеліла асабліва зацікаўленага хлопца, які мэтанакіравана і сур'ёзна ўсё разглядае і распытвае, – хіба толькі не запісвае. Калі ўсе пабеглі ўжо ў аўтобус, ён яшчэ заставаўся ў кузні, што знаходзіцца на выхадзе з экспазіцыйнай зоны – яшчэ не пра ўсё давеадаўся ў экскурсавода. І ўвогуле нічога сабе хлопец.

Завуць яго Афкан Мустафаеў. Вучыцца ў 9 "В", прычым не абы-як, а на "4" і "5".

Шмат чаго ён тут пабачыў для сябе новага, некаторыя рэчы вельмі ўразілі яго – "хоць бы вось гэтыя саламяныя стрэхі". Я цікаўлюся, ці ёсць у яго бабуля ў вёсцы, дзе б ён мог пабачыць нешта такое. Афкан кажа, што ёсць, толькі яго бабуля жыве ў Азербайджане. Там – даволі сучасная вёска, і такога не пабачыш. Дык трэба глядзець тут.

Нарэшце едзем назад, і я цікаўлюся ў астатніх пра ўражанні. "Нармальна", – кажа мне Жэня з 9-га класа. Яго сусед таксама з ім пагаджаецца. "Ну, прызнайцеся шчыра, сапраўды было цікава?" – усё не сунімаюся. "Гадзіцца", – кажуць яны.

Вярнуўшыся на школьны двор, яны, выходзячы з аўтобуса, развітваюцца з Ганнай Сяргееўнай, і многія кажуць:"Дзякую, вельмі спадабалася". І па тым, як яны гэта робяць, я канчаткова пераконваюся, што яно і сапраўды "гадзіцца".

**Вольга ЗАЙКІНА.**

НА ЗДЫМКАХ: ля Пакроўскай царквы з вёскі Логвінавічы Клецкага раёна; экскурсавод Любоў Марчук расказвае, як карыстацца кроснамі; у хаце на пагонным двары з вёскі Садавічы Капыльскага раёна.

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

# І педагог, і навуковец

***Міхасю Станіслававічу Яўневічу - 80***

***Амаль сорак гадоў, з 1963 года, беларускія школьнікі вывучаюць родную мову па падручніках Міхася Станіслававіча Яўневіча.***

Яго першыя прафесійныя гады прайшлі на Століншчыне, дзе ён выкладаў беларускую мову і літаратуру. Потым працаваў у школах Валожына і Барысава, у Барысаўскім педвучылішчы. І вось ужо пяцьдзесят гадоў лёс Міхася Станіслававіча звязаны з Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэтам імя Максіма Танка.

У свае восемдзесят прафесар М.С.Яўневіч жыве актыўным жыццём: праводзіць практычныя заняткі, кіруе аспірантамі, узначальвае Савет па абароне кандыдацкіх дысертацый па беларускай і рускай мовах, методыцы выкладання беларускай мовы ў БДПУ.

Шмат увагі надае Міхась Станіслававіч адраджэнню нацыянальнай культуры. І за вялікую педагагічную, навуковую і грамадскую дзейнасць у галіне беларускай навукі і культуры Міхась Яўневіч узнагароджаны медалём Францішка Скарыны.

У дзень 80-годдзя Міхася Станіслававіча ўсе супрацоўнікі і студэнты БДПУ шчыра віншуюць яго і жадаюць здароўя, шчасця, плёну на карысць Бацькаўшчыны.

Весткі

## Навучэнцы рыхтуюцца да фестывалю

***У залах Мінскага гарадскога вучэбна-прафесійнага цэнтра дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва прадстаўлены каля 200 работ па разьбе і вышыўцы, ганчарныя вырабы і арыгінальны абутак, мадэлі беларускіх нацыянальных касцюмаў розных эпох і проста падзелкі.***

У ёй прынялі актыўны ўдзел навучэнцы ўсіх 32 педагагічных каледжаў і прафесійна-тэхнічных вучылішчаў сталіцы.

У рамках маючага адбыцца фестывалю "Беларускі вянок" будуць прадстаўлены лепшыя з экспанатаў у Цэнтры тэхнічнай творчасці вучняў краіны на такой жа, але ўжо выставе рэспубліканскага значэння.

## "Новая зямля" — кніга года

***Сёлета сярод падзей культурнага жыцця Беларусі ёсць два юбілеі, прысвечаныя 120-годдзю з дня нараджэння Якуба Коласа і Янкі Купалы. Іх можна аднесці да народных свят.***

Цяпер у нашай краіне зарэгістравана 233 выданні твораў Я.Коласа агульным тыражом 6 млн. экзэмпляраў і Янкі Купалы адпаведна 153 выданні і 2,8 мільёна экзэмпляраў. За кошт новых юбілейных выданняў у хуткім часе гэтыя ўражваючыя лічбы павялічацца.

Адбылася прэзентацыя любімай многімі паэмы "Новая зямля", цудоўна выдадзеная беларускім фондам культуры пры падтрымцы Міністэрства інфармацыі краіны на трох мовах – беларускай, рускай і польскай.

Выхад кнігі прыўрочан да 120-годдзя з дня нараджэння вялікага беларускага паэта. Да ўвагі чытачоў больш як 90 арыгінальных ілюстрацый, якія выкананы вядомым майстрам, прафесарам, народным мастаком Васілём Шаранговічам. Яму гэтая работа была ў радасць: афармляючы кнігу, мастак вяртаўся ў сваё дзяцінства, атмасферу сельскага быту. Дарэчы, "Новую зямлю", якая, на думку спецыялістаў, стане адной з кніг года, знакаміты мастак ведаў у школе на памяць. Сапраўды, фундаментальнае выданне Я.Коласа. Тыраж яго, 5000 экзэмпляраў, зусім не дастатковы для таго, каб задаволіць ім попыт чытачоў. Расійскім і польскім чытачам кніга будзе прадстаўлена ў бліжэйшы час. Разыдзецца "Новая зямля" вельмі хутка – дзякуючы дзяржаўнай падтрымцы цана будзе невысокая для кнігі такога аб'ёму і паліграфіі – каля 15 тысяч беларускіх рублёў. Прадавацца будзе частка тыражу ў Расіі і Польшчы.

## Педагогі-лаўрэаты

***Чатыром прадстаўніцам Гродзенскай вобласці прэзідыум абласнога савета жанчын, на чале якога намеснік старшыні аблвыканкама Марыя Бірукова, за актыўны ўдзел у жаночым руху, добрасумленныя адносіны да працы, клопаты аб сям'і і выхаванне дзяцей прысвоіў ганаровае званне "Лаўрэат прэміі абласнога савета жанчын".***

Гэтага звання ўдастоены ў ліку іншых і педагогі Гродзеншчыны: старшыня Начскага Савета дэпутатаў Воранаўскага раёна Ніна Дзятчык, намеснік дырэктара сярэдняй школы № 1 гарадскога пасёлка Карэлічы Галіна Калтунова, дырэктар Путрышкаўскай сярэдняй школы Гродзенскага раёна, старшыня жаночай арганізацыі "Надзея" Лілія Кашанкова.

**Пётр ШУБЯНОК.**

Навіны

## Стануць стыпендыятамі

***85 юных талентаў стануць стыпендыятамі спецыяльнага Фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі. Адпаведнае рашэнне савета фонду нядаўна зацвердзіў Аляксандр Лукашэнка.***

Наогул, за шасцігадовую гісторыю існавання гэтага фонду больш як пяцьсот юнакоў і дзяўчат адзначаны стыпендыяй, а каля 220 атрымалі разавую матэрыяльную дапамогу. Усе стыпендыяты з'яўляюцца лаўрэатамі рэспубліканскіх і міжнародных фестываляў і конкурсаў.

## Аўтары - настаўнікі

***Нядаўна ўбачыў свет навучальны дапаможнік "Барысаў і Барысаўшчына", падрыхтаваны аўтарскім калектывам настаўнікаў геаграфіі пад кіраўніцтвам іх калегі з барысаўскай сярэдняй школы № 17 Галіны Сыраежкінай.***

Ён дае магчымасць прасачыць сацыяльна-эканамічнае і культурнае развіццё горада з моманту яго заснавання і да нашых дзён.

Яшчэ з 1 верасня мінулага года ў навучальных праграмах усіх сярэдніх навучальных устаноў Барысава з'явіўся новы прадмет – "Барысавазнаўства".

Яго ўвядзенне было абумоўлена блізкім ужо 900-гадовым юбілеем горада, а таксама імкненнем педагогаў пашырыць веды выхаванцаў аб родным горадзе. А прабел, выкліканы адсутнасцю падручніка, педагогам давялося кампенсаваць уласнымі сіламі.

Так нарадзіўся навучальны дапаможнік. Новы прадмет палюбілі юныя барысаўчане. Ён не знікне са школьных праграм і пасля юбілейных урачыстасцей горада.

## "Літаратурныя постаці Віцебшчыны"

***Нядаўна ў выдавецтве Віцебскага дзяржаўнага універсітэта імя П.М.Машэрава выйшла ў свет новая кніга.***

У зборніку "Літаратурныя постаці Віцебшчыны" сістэмна разглядаецца творчасць Вацлава Ластоўскага, Уладзіміра Дубоўкі, Анатоля Вярцінскага, Пятра Васючэнкі і іншых пісьменнікаў, паэтаў і навукоўцаў з гэтага рэгіёна.

Выданне зацікавіць настаўнікаў і выкладчыкаў, студэнтаў і школьнікаў, усіх аматараў роднай літаратуры.

## Развітайцеся з цыгарэтай

***Міжнародная антытытунёвая кампанія "Кінь курыць і выйграй" заклікае курцоў развітацца з цыгарэтай.***

Кампанія будзе праводзіцца ў маі гэтага года ва ўсіх краінах па рашэнні Сусветнай арганізацыі аховы здароўя.

Яе ўдзельнікам можа стаць кожны, хто дасягнуў 18 гадоў, мае стаж пастаяннага курэння не менш як год і вырашыў атрымаць перамогу над уласнай шкоднай звычкай.

Неабходна толькі запоўніць рэгістрацыйную картку і адправіць яе ў рэгіянальны Цэнтр здароўя.

Так, напрыклад, у Мінску ён знаходзіцца па адрасе: вул. Я.Купалы,9.

Стартавы дзень адмаўлення ад курэння – 2 мая, заключны – 29 мая, калі ў цэнтрах здароўя пройдуць розыгрышы латарэі сярод удзельнікаў кампаніі.

Прэтэндэнты на галоўныя прызы будуць праходзіць тэст на вызначэнне вокісу вугляроду ў выдыхальным паветры для пацвярджэння таго, што чалавек не курыў на працягу месяца.

Пераможцы рэгіянальнага ўзроўню паспрабуюць шчасця на рэспубліканскім розыгрышы. Акрамя гэтага, у іх ёсць шанц стаць уладальнікам еўрапейскага прыза ў 2,5 тысячы долараў і міжнароднага – у 10 тысяч долараў.

## Урок па СМІ

***У школе № 18 Брэста прайшоў адкрыты ўрок, прысвечаны сродкам масавай інфармацыі.***

На ім прысутнічалі супрацоўнікі газет і тэлежурналісты.

Вучні падрыхтавалі рэферат па гісторыі мясцовых газет, а журналісты расказалі аб сваёй нялёгкай, але цікавай прафесіі.

## Дыпламантка з Гомеля

***Чатыры дыпломы за першую палову навучальнага года атрымала пяцікласніца школы № 61 Гомеля Аня Гарбунова.***

Першы – у школьнай алімпіядзе па рускай мове, другі – у намінацыі "Аўтарскі верш" фестывалю "Усе мы родам з дзяцінства", трэці – у конкурсе мастацкага чытання, чацвёрты – у абласным конкурсе юных мастакоў.

**Казімір ЮРОЙЦЬ.**

## Курсанты - у гімназіі

***Курсанты Ваеннай акадэміі пабывалі ў гасцях у старшакласнікаў сталічнай гімназіі №11 імя генерала арміі І.Чарняхоўскага.***

Сустрэча была арганізавана пры ўдзеле выкладчыка кафедры маральна-псіхалагічнай падрыхтоўкі акадэміі палкоўніка запасу Н.Серадзінава і адміністрацыі гімназіі.

І госці, і гаспадары засталіся задаволенымі. Больш за тое, гімназісты спадзяюцца, што іх сяброўства з трэцякурснікамі-псіхолагамі агульнавайсковага факультэта працягнецца.

Што да заўтрашніх афіцэраў, дык яны былі радыя адчуць на сабе захопленыя позіркі і бляск вачэй гімназістаў. Расказваючы пра армію, пра акадэмію, пра свае будні і захапленні, яны знаёмілі вучняў гімназіі з той работай, якую будуць выконваць пасля заканчэння акадэміі. Прычым першымі іх салдатамі стануць менавіта тыя падлеткі, якія цяпер вучацца ў старшых класах школ, гімназій, прафтэхвучылішчаў.

**Аляксандр БУСЬКО, курсант.**

***З наступнага навучальнага года ў рэформе школы пачнецца важнейшы этап - масавая школа пяройдзе на новую структуру і змест адукацыі. Над удасканаленнем абноўленых падручнікаў, дапаможнікаў, вучэбных праграм працавалі калектывы 19 розных школ рэспублікі. Сёння настаўнікі-эксперыментатары 29-й сярэдняй школы Віцебска раскажуць аб тым, як праходзіла гэтая вялікая і напружаная праца, асобна спыняцца на праблеме №1 - якасці падручніка.***

***Запрашаем нашых чытачоў выказацца на дадзеную тэму. Чакаем вашых лістоў.***

**Святлана КІРСАНАВА,**
**рэдактар аддзела школ, тэл. 236-43-62.**

# Падручнік - гэта і навуковая праца, і твор мастацтва

## Слова настаўнікам-даследчыкам

## "Мы працуем на будучыню"

Сярэдняя школа №29 Віцебска – адна з дзевятнаццаці школ рэспублікі, дзе чатыры гады назад пачаўся эксперымент па апрабацыі мадэлі сярэдняй агульнаадукацыйнай школы з 12-гадовым тэрмінам навучання. Педагагічныя калектывы гэтых школ працуюць на будучыню не толькі нацыянальнай адукацыі, але і на будучыню ўсёй нашай краіны. **Мы адчуваем вялікую адказнасць, бо ад нашай эксперыментальнай работы залежыць якасць новых нацыянальных падручнікаў, вучэбных праграм і планаў.**

Гэтая работа патрабуе і ад настаўнікаў, і ад адміністрацыі глыбокага, а не фармальнага разумення канцэпцыі рэформы школы, яе задач, канчатковых мэт, перспектыў развіцця нацыянальнай адукацыі; гэтая работа патрабуе штодзённай працы над сабой, паглыблення ў свой прадмет, авалодання сучаснай методыкай выкладання; патрабуе ведання псіхалогіі школьнікаў і ўмення выкарыстоўваць гэтыя веды ў рабоце з усімі вучнямі і з кожным асобна.

На жаль, вялікая, напружаная праца калектываў эксперыментальных школ слаба адлюстроўваецца на старонках нашых педагагічных выданняў. Большасць педагогаў рэспублікі не ведае, чым мы займаемся, таму па-ранейшаму працягвае крытыкаваць дрэнныя падручнікі. Некаторыя лічаць, што рэформа ўвогуле не адбываецца. Мы вельмі прывыклі да "гучнага" вопыту, хуткіх і толькі станоўчых вынікаў, а штодзённай карпатлівай, руціннай працы не заўважаем. Праўда, вопыт работы школ па апрабацыі мадэлі школы з 12-гадовым тэрмінам навучання абагульнены і сабраны ў зборніку "Рэформа агульнаадукацыйнай школы Рэспублікі Беларусь (з вопыту эксперыментальнай і інавацыйнай работы)", выдадзеным у Мінску да II з'езда настаўнікаў. Гэты зборнік атрымалі ўсе дэлегаты з'езда, і ёсць надзея, што яго прачыталі ў многіх школах нашай рэспублікі.

Эксперыментальная работа, сапраўды, ні на дзень не спынялася. За чатыры гады склалася сістэма кіравання эксперыментам на розных узроўнях: Міністэрства адукацыі – Нацыянальны інстытут адукацыі – эксперыментальныя школы. Гэтая сістэма дазваляе аналізаваць, планаваць, кантраляваць, карэкціраваць эксперымент і ў маштабе рэспублікі, і ў маштабе асобна ўзятай школы. Трэба адзначыць, што педагогі школы не проста выконваюць заданне "зверху", а з'яўляюцца паўнапраўнымі ўдзельнікамі эксперыменту па апрабацыі новых падручнікаў, праграм, яны аналізуюць і параўноўваюць, робяць высновы і выказваюць свае прапановы. А далей на аснове матэрыялаў, прадстаўленых школай ў Нацыянальны інстытут адукацыі, вучоныя, аўтары вучэбна-метадычных комплексаў, распрацоўшчыкі праграм уносяць змяненні і дапаўненні. **Толькі дзякуючы такой сумеснай працы можа атрымацца падручнік, які будзе адпавядаць сучасным патрабаванням. Радуе, што важнейшая справа - напісанне нацыянальных падручнікаў - узята на кантроль Прэзідэнтам нашай краіны: дзяржаўная матэрыяльная падтрымка, безумоўна, станоўча паўплывае на вырашэнне гэтага пытання. Вельмі важна, на нашу думку, каб новы падручнік выдаваўся толькі ў комплексе з метадычным дапаможнікам для настаўнікаў і з дыдактычнымі матэрыяламі для вучняў.** Эканомячы сродкі і выдаючы "голы" падручнік, мы страчваем паўнату эксперыменту і ў канчатковым выніку зніжаем якасць навучання.

Праблема, якая ўзнікае на гэтым этапе эксперыменту, – стварэнне новага пакалення вучэбных і наглядных дапаможнікаў, гістарычных і геаграфічных карт, атласаў, табліц па біялогіі, замежнай мове і інш., прыбораў па фізіцы, хіміі, неабходнага абсталявання. Напрыклад, да новага падручніка па фізіцы немагчыма набыць абсталяванне для дэманстрацый і практычных работ, вялікія праблемы з забеспячэннем інструментамі і матэрыяламі ўрокаў тэхналогіі.

У ходзе эксперыментальнай работы мы зразумелі, што псіхалагічным забеспячэннем эксперыменту займаецца толькі школьны псіхолаг. Я лічу, што вучобу школьных псіхолагаў трэба праводзіць часцей, знаёміць іх з прыёмамі і методыкамі, якія дапамагалі б вырашаць праблемныя моманты ў вучэбна-выхаваўчым працэсе ў рамках праграмы эксперыменту.

Працуючы ў рамках эксперыменту, мы працягваем рэалізоўваць выхаваўчыя задачы школы, аб'ядноўваем новае ў навучанні з новым у выхаванні. І робім гэта пакуль інтуітыўна, бо не маем магчымасці выкарыстоўваць перспектыўныя распрацоўкі па выкладанню прадметаў. Што ў нашых сілах, мы робім самі, але нам патрэбна і падтрымка.

**Людміла БАРАНОЎСКАЯ,**
**дырэктар школы, член Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.**

### Таццяна АБРАМАВА, намеснік дырэктара, курыруе эксперыментальную работу:

– Эксперымент у нашай школе ідзе па некалькіх напрамках: статыстычная і аналітычная работа, вядзенне дзённікаў настаўнікаў-даследчыкаў, усемагчымыя дыягнастычныя тэсты. Гэтыя формы даследчай работы накіраваны на дасягненне цеснага ўзаемадзеяння паміж усімі ўдзельнікамі эксперыменту – настаўнікамі-практыкамі і аўтарскімі калектывамі. Каардынацыю ажыццяўляюць эксперты аддзела па кіраванню рэфармаваннем школ Нацыянальнага інстытута адукацыі.

Важна, каб настаўнікі адчулі эфектыўнасць сваёй працы, зразумелі, што ад іх вопыту, заўваг і прапаноў шмат у чым залежыць, якія будуць нацыянальныя падручнікі. Рэгулярныя сустрэчы настаўнікаў з аўтарамі вучэбна-метадычных комплексаў на базе НІА і АПА Мінска з часам прывялі да плённага супрацоўніцтва. Сумесны пошук, зацікаўленасць, прафесійны рост настаўнікаў уласцівы для навукова-педагагічных калектываў, якія ўдзельнічаюць у эксперыменце. Таму творчы характар і неабыякавае стаўленне вызначаюць работу настаўнікаў-даследчыкаў сярэдняй школы №29, пра што сведчаць іх заўвагі адносна эксперыментальных вучэбна-метадычных комплексаў, якія апрабіруюцца. Гэта плён іх шматгадовай карпатлівай працы.

Безумоўна, не ўсё праходзіць так гладка, як хацелася б. Падручнік – гэта і навуковая праца, і твор мастацтва. Каб стаць нацыянальным набыткам, ён павінен адпавядаць многім патрабаванням. Існуе, праўда, крытэрый, які дазваляе беспамылкова вызначыць якасць вучэбнага дапаможніка – гэта стаўленне да яго вучняў. Толькі праз работу школьнікаў з падручнікам выяўляецца ступень навуковасці, даступнасці, паўнаты, займальнасці і г.д. вучэбнай кнігі. І ніякі, нават самы вопытны педагог, не зможа замяніць сабой сапраўды добрую кнігу. Зразумела, настаўнік не будзе абараняць падручнік, які не па душы ні яму, ні вучням.

Вось меркаванні настаўнікаў нашай школы, што апрабіруюць эксперыментальныя вучэбна-метадычныя комплексы, ад якіх – адзін крок да нацыянальных беларускіх падручнікаў.

### Вераніка БЯЛЯЎСКАЯ, настаўніца інфарматыкі вышэйшай катэгорыі (стаж працы - 19 гадоў):

– Сучаснае грамадства ўжо цяжка ўявіць без камп'ютэра. Вядома, камп'ютэр вельмі аблягчае жыццё, але толькі тады, калі з ім умеюць абыходзіцца. Часам ствараецца ўражанне, што "разумная" машына – гэта прадмет "інтэр'ера" любога рабочага кабінета, з якога толькі выціраюць пыл. У такім выпадку дзеці могуць дапамагчы дарослым.

Інфарматыка выкладаецца ў сярэдняй агульнаадукацыйнай школе ўжо (або толькі?) семнаццаць гадоў. За гэты перыяд былі апрабіраваны тры праграмы, і мы перайшлі ад навучання асновам праграміравання да валодання камп'ютэрам на ўзроўні карыстальнікаў. Хаця чамусьці алімпіяды праводзяцца толькі па праграміраванню. І вось новая праграма па інфарматыцы: 6 клас – 0/1, 7 клас – 1/0, 8 клас – 1/2, 9 клас – 2.

Наша школа працуе па апрабацыі новай праграмы (12-гадовае навучанне) і новых падручнікаў. Дзеці, з якіх пачаўся гэты эксперымент, цяпер вучацца ў восьмым класе, дзе ніводнай гадзіны не адведзена на прадмет "Інфарматыка". Таму мы бяром два класы з паралелі і ў якасці эксперыменту "вывучаем" інфарматыку, але ўсяго толькі як факультатыў... Такое пачуццё, што гэты прадмет нехта лічыць непатрэбным.

А цяпер зазірнем у праграму і падручнікі па інфарматыцы. Калісьці тэма "Графічны рэдактар" вывучалася ў 10 класе на працягу васьмі гадзін, потым у 8 класе – шасці гадзін, цяпер плануецца ў 6 класе за чатыры гадзіны... Дзе логіка? Калі параўнаць існуючую праграму для 8-9 класаў з той, што прапануецца, дык розніца паміж імі – толькі ў тэндэнцыі змяншэння колькасці гадзін на вывучэнне матэрыялу (абапіраюся толькі на праграму для 6 і 7 класаў). Як будзе адбывацца далейшае выкладанне асноўных паняццяў прадмета, невядома, бо ніводнай сустрэчы ні са складальнікамі праграмы, ні з аўтарамі падручнікаў яшчэ не было.

Але, нягледзячы на гэтыя недахопы, ёсць і амаль удалыя падручнікі, напрыклад, "Інфарматыка і інфармацыйныя тэхналогіі" для 6 і 7 класаў (Ю.А.Быкадораў, А.Т.Кузняцоў). Радуе, што нарэшце ў падручніках ёсць падборка задач і практыкаванняў, якія вучань можа выканаць дома і не маючы камп'ютэра. Калі ж да тлумачэння матэрыялу ў параграфы дабавіць ілюстрацыі, бо толькі па апісанню цяжка ўспрымаць інфармацыю, – было б, на маю думку, проста ідэальна. А ў цэлым падручнікі ўдалыя, працуючы па іх, атрымліваеш сапраўднае задавальненне: матэрыял выкладаецца даступна, зразумела, пры жаданні і невялікіх намаганнях вучні могуць засвоіць яго на даволі высокім узроўні.

Але, як звычайна, не бывае бочкі мёду без лыжкі дзёгцю. Як будуць займацца па гэтых падручніках школьнікі, якія асвойваюць асновы інфарматыкі на такіх машынах, як "Карвет", "Няміга", "УКНЦ", "Ямаха" і інш.? Падобных камп'ютэрных класаў у рэспубліцы яшчэ вельмі многа. Паспяхова вучыцца па прапанаваных падручніках у адпаведнасці з праграмай можна толькі ў тым выпадку, калі ў вучня дома ёсць камп'ютэр з аперацыйнай сістэмай "Windows" і бацькі дазваляюць яму праводзіць за ім неабмежаваны час.

**P.S.** *Ёсць меркаванне і прапанова!* ***Тэрмінова перагледзець размеркаванне гадзін на інфарматыку ў праграме.*** *І мы за гэтыя падручнікі прагаласуем дзвюма рукамі!*

### Елізавета КАЗЛОЎСКАЯ, настаўніца матэматыкі першай катэгорыі (стаж працы - 30 гадоў):

– Якім я бачу падручнік па матэматыцы? Ён павінен адпавядаць вучэбнай праграме і мэтам навучання, развіваць логіку, мысленне і матэматычныя здольнасці вучняў, быць цікавым і даступным.

Лічу, што гэтым патрабаванням не супярэчаць падручнікі па матэматыцы для 5-6 класаў, аўтарамі якіх з'яўляюцца Л.А.Латоцін і Б.Д.Чабатарэўскі. Змест матэрыялу і характар яго выкладання адпавядаюць прынцыпу навуковасці, узроўню развіцця сучаснай матэматычнай навукі. Вучэбны матэрыял падаецца доказна, цэласна, даступна і лагічна. У падручніку шмат цікавых і розных па ўзроўню складанасці заданняў, ёсць задачы на паўтарэнне. Паспяхова рэалізуецца прынцып нагляднасці, які дапамагае лепшаму ўспрыманню матэрыялу.

Вартасцю падручніка, на маю думку, з'яўляецца тое, што тэкставыя задачы рашаюцца арыфметычным шляхам, бо выкарыстанне гэтага спосабу развівае ўменне разважаць, дакладна і зразумела выкладаць свае думкі. У падручніку змешчаны разнастайны дадатковы матэрыял, разлічаны на паглыбленне матэматычных ведаў і задавальненне пазнавальных інтарэсаў.

На працягу трох гадоў было прыемна працаваць з аўтарамі гэтых падручнікаў. Яны заўсёды прыслухоўваліся да нашага меркавання, бралі пад увагу нашы заўвагі і пажаданні. І як вынік – добры, перапрацаваны падручнік "Матэматыка. 4 клас".

### Наталля ПЛАТОНАВА, настаўніца матэматыкі першай катэгорыі (стаж працы - 10 гадоў):

– У ходзе эксперыменту нам давялося працаваць з вучэбна-метадычнымі комплексамі, створанымі рознымі аўтарскімі калектывамі: "Матэматыка – 5", "Матэматыка – 6" (Л.А.Латоцін, Б.Д.Чабатарэўскі); "Матэматыка – 7" і "Алгебра – 8" (пад рэдакцыяй Л.Б.Шнепермана); "Матэматыка – 8" (Г.Н.Солтан і інш.); "Геаметрыя – 8" (Н.В.Гваздовіч); падручнікамі для паглыбленага вывучэння матэматыкі ў 8 класе 12-гадовай школы – аўтарскія калектывы пад кіраўніцтвам К.А.Ананчанка (алгебра) і Н.М.Раганоўскага (геаметрыя). Гэта сведчанне сілы беларускай матэматычнай школы, таго, што метадысты-матэматыкі працуюць цікава і плённа.




Фота Юрыя БОНДАРАВА

Прапанаваныя вучэбна-метадычныя комплексы па матэматыцы настройваюць на сур'ёзнае стаўленне да прадмета, гэтаму дапамагаюць і арыгінальныя, нестандартныя заданні. Цікавая і карысная інфармацыя, змешчаная ў падручніках, пашырае кругагляд, развівае інтэлект. Аўтары прапанавалі дыферэнцыраваны набор самастойных работ, распрацаваны па кожнай тэме комплекс заданняў, у тым ліку і вуснага характару. У ВМК уваходзяць метадычныя дапаможнікі для настаўніка, якія павінны дапамагчы зразумець аўтарскую думку. Ёсць таксама прыклады рашэння нестандартных задач, узоры афармлення.

На маю думку, вучэбна-метадычныя комплексы па матэматыцы можна назваць удалымі. Важным момантам з'яўляецца і тое, што падчас эксперыменту прадугледжана такая форма работы як сустрэча з аўтарамі падручнікаў, якія не застаюцца абыякавымі да меркаванняў і крытычных заўваг настаўнікаў.

### Жанэта СМАЛЯКОВА, настаўніца фізікі вышэйшай катэгорыі (стаж працы - 24 гады):

– Сёння ў школу прыйшло новае пакаленне дзяцей, якія выраслі ва ўмовах інфармацыйнага грамадства. Многія з іх так паглыблены ў віртуальны свет, што ён стаў для іх галоўнай рэальнасцю. Фізічны ж свет для іх – невядомы і незразумелы. Сапраўдная рэчаіснасць і жыццё патрабуюць намаганняў, затраты фізічных і душэўных сіл. І калі мы хочам быць карыснымі нашым дзецям, нам трэба мяняцца. Менавіта на гэта разлічаны новы вучэбна-метадычны комплекс па фізіцы для вучняў 7-8 класаў пад рэдакцыяй В.І.Дыніч і Е.А.Талкачова.

Ствараюцца праграма, падручнікі, рабочыя сшыткі, дыдактычныя матэрыялы, распрацоўваюцца метадычныя рэкамендацыі з мэтай укараніць ідэі развіццёвага навучання ў канкрэтную дзейнасць вучняў і настаўніка на ўроку. Яна павінна быць разнастайнай, сістэмнай і інструментальнай. Настаўніку пры гэтым адводзіцца самая важная роля – арганізаваць вучэбную дзейнасць, накіраваць яе ў патрэбнае рэчышча, падказаць, падтрымаць вучня, засцерагчы яго ад жорсткіх расчараванняў і катэгарычных меркаванняў, дапамагчы ў выбары пераканаўчых аргументаў.

Аўтары комплексу пастаянна супрацоўнічаюць з настаўнікамі-эксперыментатарамі, прыслухоўваюцца да іх пажаданняў, і як вынік гэтага супрацоўніцтва – новы комплекс для вучняў 8 класа, дзе ўлічаны амаль усе заўвагі. А менавіта: рознаўзроўневае выкладанне матэрыялу, уводныя старонкі да тэмы, табліцы абагульнення, падбор якасных і разліковых задач, інструкцыі да выканання лабараторных работ, матэрыялы па практычнаму выкарыстанню фізічных з'яў.

### Ірына БЯДАРЫК, настаўніца біялогіі другой катэгорыі (стаж працы - 4 гады):

– Эксперыментальны падручнік "Біялогія – 8" і праграма для восьмага класа (аўтары – В.Я.Кузьменка, А.А.Ляшко, В.С.Канюшка) маюць шэраг істотных адрозненняў у параўнанні са стандартнымі вучэбна-метадычнымі комплексамі па біялогіі. Праграма пабудавана ў адпаведнасці з прынцыпам ад агульнага да прыватнага. У падручніку добра падабраны дадатковы матэрыял, што дае магчымасць настаўніку працаваць па 10-бальнай сістэме ацэнкі ведаў.

Хацелася б, каб метадычны апарат падручніка быў дапоўнены прадметным паказальнікам, слоўнікам тэрмінаў. На маю думку, неабходна дапрацаваць тэму аб сістэме размнажэння беспазваночных жывёл.

Станоўчы момант – паяўленне раздзела "Самастойная работа вучняў": дзеці выбіраюць любую з прапанаваных тэм і самі робяць назіранні, праводзяць даследаванні.

Увогуле падручнік зменены ў лепшы бок, але для найбольш прадуктыўнай працы з ім павінен быць рабочы сшытак вучня.

Школьнікам падручнік падабаецца. У ім кожны можа знайсці цікавую для яго інфармацыю. Эканоміцца час дзяцей, бо ім не трэба траціць дадатковыя намаганні для пошуку матэрыялу ў даведачнай літаратуры – гэты матэрыял выдзелены. У падручніку шмат ілюстрацый жывёл, прыводзяцца займальныя прыклады, што выклікае цікавасць да навакольнага свету, дапамагае зразумець ісціну: багацце і прыгажосць жывёльнага свету залежаць ад чалавека.

### Таццяна ЕРМАЛОВІЧ, настаўніца геаграфіі другой катэгорыі (стаж працы - 8 гадоў):

– Вучэбна-метадычны комплекс па геаграфіі, распрацаваны групай аўтараў, адпавядае праграме агульнаадукацыйнай школы. У працэсе работы апрабіраваліся падручнікі для 6 і 7 класаў "Пачатковы курс фізічнай геаграфіі" (Б.М.Крайко і інш.). Змест гэтага курса павінен забяспечыць разуменне вучнямі прыродных аб'ектаў, узаемасувязяў паміж абалонкамі зямнога шара і працэсаў, што абумоўліваюць іх змяненне ў часе, вывучэнне насельніцтва і гаспадарчай дзейнасці чалавека. Падручнікі і рабочы сшытак для 6 класа з рознымі тыпамі заданняў дазваляюць гэта зрабіць. У падручніку, акрамя тэарэтычнага матэрыялу, ёсць добра падабраная дадатковая інфармацыя, распрацаваны і ўнесены ў параграфы практычныя работы і розныя заданні для самастойнай работы. Багаты ілюстрацыйны матэрыял дазваляе знаёміцца з геарафічнымі аб'ектамі на аснове падручніка.

Падручнік для 7 класа пабудаваны крыху горш. Некаторыя тэмы перанасычаны тэарэтычнымі звесткамі, напрыклад, "Галіны прамысловасці", мала практычных заданняў для самастойнай работы вучняў. Але ўжо ў гэтым навучальным годзе недахопы былі кампенсаваны сшыткам з рознымі тыпамі заданняў (складальнікі – І.П.Галай і А.П.Атрахімовіч). З улікам нашых заўваг цяпер ідзе перапрацоўка падручнікаў для 6-7 класаў.

Неабходна адзначыць цесную сувязь настаўнікаў геаграфіі з аўтарамі вучэбна-метадычных комплексаў, асабліва з Б.М.Крайко, які заўсёды прымае пад увагу ўсе прапановы і заўвагі настаўнікаў-эксперыментатараў па паляпшэнню якасці вучэбнікаў.

### Алена КАРПАВА, настаўніца рускай мовы і літаратуры першай катэгорыі (стаж працы - 18 гадоў):

– З кожным годам становіцца ўсё больш відавочнай зацікаўленасць аўтарскіх калектываў ва ўдасканаленні вучэбных і метадычных дапаможнікаў. Калі спачатку, у першы год эксперыменту, падручнікі былі даволі тэарэтызаванымі, перагружаны другараднай інфармацыяй, у іх адчуваўся недахоп практычных заданняў, дык цяпер яны сталі больш даступнымі, паявілася магчымасць выбару рознаўзроўневых заданняў. Аўтары ідуць на кантакт з настаўнікамі-практыкамі, прыслухоўваюцца да іх заўваг.

З цікавасцю знаёмяцца і вучні, і настаўнікі з новымі тэмамі эксперыментальнай праграмы па рускай літаратуры для 8 класа 12-гадовай школы (аўтары – Т.Ф.Мушынская, С.Н.Каратай), чытаючы паэму Пушкіна "Бахчысарайскі фантан", аповесць Гогаля "Старасвецкія памешчыкі", апавяданні Тургенева і Караленкі, Казакова і Шукшына, вершы Суркова, Раждзественскага, Еўтушэнкі, Забалоцкага, Рубцова і іншыя творы, якія раней не вывучаліся ў сярэдняй школе.

Абсалютна новы і падручнік "Руская мова – 8" (аўтары – Л.А.Мурына, А.Я.Долбік і інш.). Ён падабаецца і вучням, і настаўнікам. Спадзяемся, што пасля дапрацоўкі гэты, пакуль эксперыментальны, падручнік будзе адпавядаць усім патрабаванням школьнай філалагічнай адукацыі. Хацелася б, каб у працэсе вывучэння рускай мовы нашы вучні больш займаліся развіццём арфаграфічных і пунктуацыйных навыкаў, а не вывучэннем тэмы "Тэкст", якая ў наступных класах, як паказвае вопыт, ім не так ужо і патрэбна. Мала ўвагі ўдзяляецца ўрокам па развіццю мовы, школьнікі не валодаюць навыкамі складання плана, праграма не адводзіць часу на вучэбныя сачыненні і пераказы...

Увогуле, падручнікі ў параўнанні з падручнікам па рускай мове для 5 класа, які вельмі крытыкаваўся, значна палепшыліся. Гэта звязана з тым, што ў работу па іх стварэнню ўключыліся метадысты і вучоныя, якія спецыялізуюцца на распрацоўцы школьнага мовазнаўства.

### Ала КЫСАВА, настаўніца сусветнай мастацкай культуры вышэйшай катэгорыі (стаж працы - 32 гады):

– Эксперыментальны курс па сусветнай мастацкай культуры (аўтары – А.С.Лапцёнак, В.В.Пазнякоў і інш.) лічу цікавым. Але трэба ўлічваць, што падручнік для 9 класа павінен быць працягам таго, з чым вучні ўжо знаёміліся ў 8-м класе. На маю думку, у падручніку (і асабліва ў хрэстаматыі) трэба скараціць аб'ём інфармацыі, дабавіць слоўнік тэрмінаў, зрабіць падручнік больш даступным для вучняў.

Напрыклад, раздзел "Чалавек у пошуках гармоніі" настолькі складаны, што вучні за адведзеныя чатыры гадзіны паспяваюць засвоіць толькі асноўныя вывады, а філасофскія разважанні застаюцца па-за іх увагай.

Што да хрэстаматыі (складальнікі – В.Ф.Таланцава, А.Б.Гарбуноў), дык адзін яе аб'ём можа прывесці ў адчай любога, нават самага здольнага вучня.

Заўвагі ёсць і па раздзелу "Музычнае жыццё Беларусі". Гэты раздзел больш падыходзіць настаўніку музыкі, а выкладчыку СМК даволі складана патлумачыць школьнікам спецыяльныя тэрміны і паняцці.

### Вольга СЕНЧАНКА, настаўніца гісторыі першай катэгорыі (стаж працы - 25 гадоў):

– Якім павінен быць падручнік гісторыі? Цікавым і даступным. Які падручнік мы маем у рамках эксперыменту? На гэтае і другое пытанні я адкажу крыху пазней.

Такім чынам, падручнік па сусветнай гісторыі для 8 класа (аўтары – В.С.Кошалеў, І.В.Аржахоўскі і інш.). Тэма – "Расія першай паловы XIX стагоддзя". Якія пытанні трэба вывучыць? Іх шмат – пачынаючы з характарыстыкі тэрыторыі і насельніцтва і заканчваючы Крымскай вайной. Трэба разгледзець пытанне і аб Айчыннай вайне 1812 года. У падручніку – толькі адно прозвішча М.І.Кутузава (вайна – гераічная, народная), у параграфе – аб усім і ні аб чым. Таму не ведаюць вучні гісторыі і не будуць ведаць. Ці цікавы падручнік? Думаю, што не.

Ці даступны? Аўтары ставяць перад школьнікамі задачу вывучыць сем складаных пытанняў, ахарактарызаваць усю першую палову XIX стагоддзя. Магчыма гэта? Думаю, што не.

Але гаворка ідзе пра эксперыментальны падручнік. Таму спадзяюся, што аўтары ўлічаць крытычныя заўвагі настаўнікаў, і падручнік стане больш даступным і цікавым.

### Іна ІСАКОЎСКАЯ, настаўніца тэхналогіі другой катэгорыі (стаж працы - 19 гадоў):

– Прадмет выяўленчае мастацтва – сродак развіцця творчых здольнасцей вучняў. Школьнікам прапануюцца два падручнікі – "Мастацтва бачыць свет" (В.Ф.Таланцавай) і "Выяўленчае мастацтва" для 5-7 класаў пад рэдакцыяй Н.Д.Мінц.

Падручнік "Мастацтва бачыць свет" накіраваны на знаёмства з айчыннай і сусветнай культурай, з творамі мастацтва розных відаў і жанраў. Але ці магчыма знаёмства вучняў з творамі мастацтва па слоўнаму апісанню? Не. Вучань павінен убачыць гэтыя творы, адчуць колер, характар персанажаў, стаўленне аўтара да сваіх герояў. Таму наяўнасць добрага ілюстрацыйнага матэрыялу неабходна пры вывучэнні прадмета "выяўленчае мастацтва". Падручнік "Мастацтва бачыць свет", на маю думку, перагружаны інфармацыяй.

А вось падручнік "Выяўленчае мастацтва" заслугоўвае добрай ацэнкі. У ім падаюцца не толькі тэарэтычныя звесткі, але прапануюцца і практычныя заданні, якія вучні могуць выканаць не толькі разам з настаўнікам, але і самастойна. Падручнік трэба дапоўніць слоўнікам тэрмінаў.

### Святлана САЙКОЎСКАЯ, настаўніца музыкі першай катэгорыі (стаж працы - 19 гадоў):

– 1-4 (0-3) класы займаюцца па старой праграме Д.Б.Кабалеўскага, перакладзенай і дапоўненай беларускімі вучонымі. З 5 класа школа перайшла на новую эксперыментальную праграму, распрацаваную В.Д.Юркевіч, і адразу атрымала новы падручнік, які адрозніваецца ад тых, з якімі нам даводзілася мець справу ў пачатковай школе. Ён мае пяць раздзелаў.

У раздзеле "Слухаем музыку" ў 5 класе вучні знаёмяцца з такім музычным жанрам, як опера, з вядомыміópернымі кампазітарамі, гісторыяй стварэння, сюжэтамі і музыкай найбольш папулярных опер XVIII-XIX стагоддзяў. У 6 класе вывучаюць гісторыю развіцця музычных інструментаў і музыку розных эпох, пачынаючы з Сярэдневякоўя і Рэнесансу і заканчваючы Класіцызмам. Школьнікі могуць паслухаць, як гучаць сапраўдныя музычныя інструменты розных эпох. У 7 класе вучні знаёмяцца з музыкай замежных і рускіх кампазітараў XIX стагоддзя. І на гэтым музычная асвета заканчваецца. Такое ўражанне, што ў XX стагоддзі музыка перастала развівацца. Прадмет быў заменены на "сусветную мастацкую культуру".

Раздзел "Наша спадчына" знаёміць з абрадавымі песнямі, звязанымі з каляндарна-земляробчым цыклам, а пытанні-каментарыі да кожнай песні дапамагаюць замацаваць звесткі аб элементах музычнай мовы.

Раздзел "Наша творчая лабараторыя" дапамагае асвоіць элементарныя віды кампазітарскай творчасці, вучыць, як з верша стварыць песню і нават цэлую музычную кампазіцыю, а таксама знаёміць з рознымі спосабамі складання рытмічнага акампанемента з выкарыстаннем музычных інструментаў.

Увогуле, падручнікі і праграма – неблагія. Яны сапраўды дапамагаюць развіваць кругагляд і даюць добрыя веды. Аднак новая праграма, як і старая, мае пэўныя мінусы. Напрыклад, у 5 класе пры вывучэнні оперы як музычна-драматычнага твора дзецям прапануецца стварыць уласны твор, пачынаючы ад выбару сюжэту, распрацоўкі лібрэта і заканчваючы сачыненнем асноўных вакальных нумароў з аркестравым суправаджэннем. Вучню, які не наведвае музычную школу, справіцца з такім заданнем практычна немагчыма.

Творы, якія ўключаны ў раздзел "Песні для развучвання на слых", цікавыя, развіваюць мастацкі густ і любоў да музыкі. Але, на маю думку, многія проста не адпавядаюць узроставым асаблівасцям дзяцей. Напрыклад, складаныя для спявання "Ave, Maria!" Ф.Шуберта, "Персідскі марш" І.Штрауса (6 клас), "Спадарожная песня" М.Глінкі, "Кахаю цябе" Э.Грыга, "Ты цудоўная, о Радзіма наша" (хор з оперы "Навуходаносар") Дж.Вердзі (7 клас). Гэтыя творы больш падыходзяць да ўзорнага хору.

Меркаваць пра новую эксперыментальную праграму В.Д.Юркевіч складана яшчэ і таму, што мы не бачылі падручнікаў па музыцы для пачатковай школы і падагульняючага падручніка для 8 класа, які павінен паставіць кропку і паказаць, што неабходна ведаць школьнікам і чаму іх трэба навучыць. Спадзяемся, што распрацоўшчык праграмы зможа давесці гэтую справу да канца, і нашы дзеці ў недалёкай будучыні сапраўды стануць дасведчанымі ў музыцы людзьмі з высокім мастацкім густам.

